Год III. Сьнежань № 12 (35)

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі."

ЯНКА КУПАЛА.





ВІЛЬНЯ, 1931 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 12.



*Просім пашыраць «Шлях Моладзі» і прысылаць падпіску (грошы)!*

# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр
„ на паўгода . . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . . 2 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno, Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год III. | Вільня, Сьнежань 1931 г. | № 12 (35) |
|---|---|---|

## Каляднае, зімовае...

З усіх пор году зіма найбольш прыгодна для працы моладзі над самаадукацыяй, над праглыбленьнем сваіх пазнаньняў у кожнай галіне жыцьця. Час доўгіх зімовых вечароў трэба разумна выкарыстаць, замест траціць яго на бязмысных гульнях, найчасьцей спалучаных з шкоднай выпіўкай і няўнікнёных пасьля гэтага сварках.

Праца над самаадукацыяй мусіць быць пляновай і сьвядома кіравацца да заранья ўгледжанай мэты.

Такіх мэтаў (заданьняў) можа быць бяз ліку. На сягоньня аднак бадай найважнейшым заданьнем беларускай моладзі павінна быць усьведамленьне самых сябе і сваіх найбліжэйшых у тым, *чаму так цяжка жыць сяньня беларускаму селяніну і як гэта жыцьцё паправіць.*

Каб усьведаміцца ў гэтым, трэба прачытаць—паадзіночку ці супольна — адну—другую разумную кніжку, газэту, скуль нятрудна даведацца, як жывуць нашы дальшыя і бліжэйшыя суседзі. Стуль таксама даведаемся, што сучаснае гаспадарчае ліхалецьце, ці як яго ў кніжках называюць — крызыс зачапіў ня толькі наш край, нашу беларускую вёску, але амаль цэлы сьвет. Толькі што ўсе людзі кругом гэты крызыс або ўжо пераімылі, або хоць яго йшчэ і пераіжываюць, але разьмеры і формы гэтага ў іх крызысу далёка ня гэтак вострыя і балючыя, як у нас: іх ратуюць ад націску крызысу свае гаспадарчыя арганізацыі.

Але ці-ж не надаелі ўжо і нашаму селяніну розныя платныя агенты таксама намовамі да ўсялякіх арганізацыяў? А аднак карысьці ад гэтага ніякай няма. Дык як-жа гэта?

Калі хто, то гаспадар-земляроб мусіць добра ведаць, што не на кожным полі вырасьце пшаніца. А калі на якімсь полі гэта пшаніца і расьце, дык поле пад яе мусіць быць за *кожным разам* добра перапахана і пагноена.

Гэтак і з гаспадарчай арганізацыяй: яна расьце, разьвіваецца і дае карысьць толькі тады, калі яна не накінена зьверху, а вырасла з патрэб і волі самых мяйсцовых людзей, імі толькі кіруецца і іхным выключна служыць патрэбам.

Найлепшую аднак глебу трэба за *кожным разам* араць і гнаіць, а пяршыню (дзірван) да таго — карчаваць і аддзярнаваць!

Як-жа незраўнана больш працы і коштаў вымагае ўспаханьне і пагнаеньне гэткага дзікога поля, чымся самая сяўба на ім, якая прыносіць ужо відавочны ўраджай?! І аднак кожны земляроб ня сеіць, перш неўспахаўшы і непагнаіўшы свайго поля. А хто-б іздумаў рабіць наадварот, таго ўсе згодна ўважалі-б за благога гаспадара, бо з гэтакай сяўбы, апрача стратаў, нічога іншага напэўна ня было-б.

Ня йнакш стаіць справа і з гаспадарчымі арганізацыямі, якія ўжо самі прыносяць сваім сябром відавочную карысьць. Нельга аднак забывацца, што гэтыя гаспадарчыя арганізацыі, гэта ўжо сяўба, прад якой мусіць прыгатавацъ грунт да пасеву нехта іншы. Гэтым „іншым" ёсьць цяжкая, ахвярная, але неабходна-патрэбная праца культурна-прасьветная.

Культурна-прасьветная праца найчасьцей не дае ніякіх матэр'яльных карысьцяў, як не дае іх земляробу і самае толькі мазольнае карчаваньне, араньне і каштоўнае гнаеньне. Міма гэтага гаспадар аднак арэ—баранує, бо ведае, што калі гэтага наперад ня зробіць, дык само сяўбовае насеньне нават з поля ня вернецца.

Гэтак не прыносе ніякай карысьці і арганізацыя гаспадарчая, калі яе не папярэдзіць на тым-жа мейсцы праца культурна-прасьветная. Як неразумным было-б кідаць найлепшае коць-бы сяўбовае зерне на неўспаханы дзірван, так неразумна ёсьць спадзявацца добрых вынікаў з працы гаспадарчых арганізацыяў там, дзе прад тым, ці прынамся адначасна не працуе свая родная арганізацыя культурна-прасьветная.

Зазначаем тут выразна неабходнасьць працы культурна-прасьветнай роднай, ня чужой, а знача для нашага краю — беларускай.

Ніводзін народ не паправіў свайго дабрабыту здалёк ад свае ўласнае нацыянальнае культуры. І ў нас не разьвілася польская коопэрацыя, хоць гэта-ж коопэрацыя вельмі добра разьвіваецца ў сапраўднай Польшчы. А коопэрацыя ў Латышоў, Фінаў, Украінцаў пачала разьвівацца па нячувана вялікіх разьмерах іменна тады, калі па іхных вёсках павялі працу іншыя-ж культурна-прасьветныя арганізацыі, якія ахвярна пашыралі сярод акружаючага сялянства сваю родную нацыянальную культуру і гэтым прыгатавалі грунт для арганізацыі гаспадарчай.

Для беларускай моладзі згэтуль выснавак ясны: калі мы хочам паправіць у будучыні гаспадарчае палажэньне нашай вёскі, дык мусім прыгатаваць для гэтага грунт працай культурна-прасьветнай у адпаведных да гэтага арганізацыях.

Такой арганізацыяй у нас ёсьць Беларускі Інстытут

Гаспадаркі і Культуры ў Вільні, разам з сваімі Гурткамі на вёсках. Гэткі Гурток Інстытуту, як арганізацыю выключна культурна-прасьветную, негалітычную, можна заснаваць у кожнай вёсцы, дзе знойдуцца прынамся тры ахвотныя да гэтай справы асобы. Праца ў Гуртках Інстытуту існуючымі законамі дазволена. Хто-б гэтай справай цікавіўся бліжэй, хай зараз жа напіша ў Інстытут*), а атрымае выясьненьне і параду.

Ад сябе тут зазначым, што толькі беларуская культурна-прасьветная праца здольна ў нас прыгатаваць трывалы грунт для разьвіцьця гаспадарчых арганізацыяў, а праз іх і для нашага-ж гаспадарчага дабрабыту.

Доўгія зімовыя вечары трэба на гэта выкарыстаць. Гэта найважнейшае сяньня заданьне нашай беларускай моладзі.

**А. К.**

# З гісторыі беларускае прэсы.

*(З прычыны 25-цілецьця ад выхаду „Нашае Долі")*

Сёлета мінула 25 гадоў ад выхаду ў сьвет першае легальнае беларускае пэрыодычнае часопісі „Наша Доля". З гэтае прычыны неадрэчы будзе заглянуць у гісторыю беларускае прэсы, якая сягае даволі даўных часоў.

Весь-жа ў 1863 годзе, у часе польскага паўстаньня супроць расейскае царскае ўлады, якая акупавала тады не толькі Беларусь, але і часьць Польшчы, учасьнік гэтага паўстаньня Кастусь Каліноўскі нелегальным спосабам выдаў лістоўку (штось ці ў родзе газэты) пабеларуску пад назовам „Мужыцкая Праўда", у якой заклікаў беларускае сялянства да ўчасьця ў паўстаньні супроць расейскае царскае ўлады. Далей, гаворачы аб пачатках беларускае прэсы, трэба адзначыць, што яшчэ ў 1870 годзе беларускія эмігранты ў Швайцарыі ў Цюрыху выдалі № 1 беларускае часопісі п. н. „Грамадзкі Зговар"**). На гэтым адвак першым нумары выдаўцы мусілі стрымаць сваю выдавецкую працу з прычыны нястачы матэр'яльных сродкаў.

У 1884 годзе беларусы-народавольцы (на бацькаўшчыне) выдалі падпольна часопісь „Гоман" друкаваную парасейску, але ў духу беларускім.

У 1905 годзе Беларуская Рэвалюцыйная Грамада пра-

*) Адрэс: Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, Вільня, Людвісарская 1—19 (Wilno, Ludwisarska 1—19).

**) „Slovansky Prehled" № 9 за 1931 г.

бue выдаваць беларускую часопісь „Свабода". Часопісь гэта аднак, з прычыны тэрору з боку расейскіх уладаў, не змагла выйсьці.

У 1906 годзе ў Вільні пачынае выходзіць першая легальная беларуская часопісь „Наша Доля", якая што-праўда таксама з прычыны адміністрацыйнага тэрору не змагла доўга ўтрымацца, але аднак зерне засеенае ею не замірае, але ўсходзе і красуе.

„Нашае Долі" вышла ўсяго 6 нумароў, з якіх распаўсюджаны быў толькі № 1 (надрукаваны, ў ліку 10.000 экзэмпляраў 6.000 граждапкай і 4.000 лацінкай), у ліку 8.000 экзэмпляраў, пакуль паліцыя ня ўсьпела сканфіскаваць і № 2. Рэшта нумароў былі сканфіскаваны і зьнішчаны, а рэдакцыя зачынена расейскімі ўладамі.

Пасьля зачыненьня „Нашае Долі", на яе месца пачала выходзіць „Наша Ніва", якой галоўным закладчыкам, як і „Нашае Долі", быў сьв. п. Іван Луцкевіч (†1919).

„Наша Ніва" ад 1906 году выходзіла аж да прыходу ў Вільню Немцаў, да 1915 г. Будзіла яна народ да нацыянальнае сьведамасьці і гуртавала каля сябе сьведамую беларускую інтэлігенцыю, Рэдактарам „Нашае Нівы" паміж іншымі быў праз нейкі час найвялікшы наш беларускі паэт Янка Купала, В. Ластоўскі і іншыя.

Як важную роль адыгрывала ў той час „Наша Ніва", сьведчыць добра тое, што гэны час, у якім выходзіла гэта часопісь, у гісторыі беларускай названы: „Нашаніўскім пэрыядам".

У гэным часе, калі выходзіла „Наша Ніва", у Вільні пачала выходзіць беларуская каталіцкая часопісь „Biełarus". У 1915 г. ў Вільні пачаў выходзіць „Гоман", а ў 1917 годзе ў Петраградзе пачала выходзіць найстарэйшая з сучасных, да сяньня выходзячая беларуская незалежніцкая часопісь „Крыніца".

Агулам кажучы, з выхадам у сьвет „Нашае Долі" адраджэнскі беларускі рух, а разам з гэтым і прэса яшчэ больш расьце і разьвіваецца. І сяньня маем мы ўжо некалькі штодзенных газэт, некалькі дзесяткаў тыднёвікаў і месячнікаў палітычнага, а так-жа культурна-грамадзкага літэратурна-мастацкага, рэлігійнага і выхаваўчага характару. Сяньня, паміма ўсялякіх перашкод з боку чужынцаў і здрады некаторых „дзеячоў", а фактычна—круцялёў, — рух гэты не замірае, а далей пашыраецца і паглыбляецца, абымаючы шэрыя беларускія працоўныя масы. Рух гэты прыняў ужо арганізаваную форму і бязумоўна не замрэ, а дасягне свае мэты: Волі Беларускага народу.

Я. Н.

# Крыху з нашай гісторыі.

## Як адбывалася будаваньне Беларуска-Літоўскай дзяржавы?

Пры канцы XIII ст. высунуўся на арэну грамадзкага літоўскага жыцьця адзін з выдатнейшых князёў — Міндаўг I. Ён лічыўся галавою і павадыром Літвы. Аднак Міндаўг меў ня мала клопату з меншымі князькамі Літвы, якія не хацелі падпарадкавацца ягонай уладзе, бо яшчэ ня страцілі сваю незалежнасьць.

З бегам часу Міндаўг не здавольваецца пасадам першага князя сярод іншых меншых князькоў Літвы, але імкнецца быць поўным гаспадаром усяе Літвы. І дзеля гэтага ён вядзе змаганьне з сваімі князькамі, не застанаўляючыся ні перад якімі спосабамі барацьбы. Пакапаць унутраных ворагаў яму ўдалося. І цяпер Міндаўг пачынае накладаць сваю сільную руку і на суседніх князёў Полацкай Русі. Карыстаючы з адпаведных мамэнтаў, ён захапляе Чорную Русь, дзе завaладаў гарадамі: Наваградкам, Слонімам, Горадняй, Ваўкавыскам і іншымі меншымі гарадамі. Сталіцаю Міндаўга быў Наваградак. У Полацку-ж панавалі так-жа князі ад яго залежныя.

Гэткім чынам Міндаўг збудаваў дзяржаву, каторая ад самага пачатку была Беларуска-Літоўскай. Міндаўг добра разумеў, што абапёрціся на самым толькі племі літоўскім нельга, бо літоўцаў няшмат было і прытым яны ня мелі культурнай сілы. Дзеля гэтага трэба было ўцягнуць у дзяржаўнае жыцьцё беларускае грамадзянства. Гэтае грамадзянства было неабходнае для новай дзяржавы, бо з яго можна было ўзяць узброеную сілу і арганізацыйна-культурную традыцыю.

Аднак маладая дзяржава не магла спакойна разьвівацца, бо зараз пачалі нападаць на яе крыжакі. Міндаўг прыняў хрысьціянства, каб гэтым забясьпечыцца ад крыжацкіх нападаў (крыжакі нападалі пад прэтэкстам навароту паганцаў на хрысьціянства). Калі і прыняцьце хрысьціянства ня ўстрымала крыжакоў ад нападаў, тады Міндаўг, сабраўшы свае сілы, выступіў у абароне граніц сваей дзяржавы. Доўга цягнуліся змаганьні з крыжакамі, але ў канцы Міндаўг так іх зграміў, што яны на доўгі час далі супакой Беларуска-Літоўскай дзяржаве.

Аднак нядоўга прышлося панаваць Міндаўгу ў маладой дзяржаве. Паасобныя князі з зайздрасьці напалі на сьпячага Міндаўга і забілі, разам з двума малалетнімі сынамі. Па сьмерці Міндаўга князі — забойцы пачалі дзяліць уладу між сабой і змагацца за вярхоўнае павадырства.

Спачатку атрымаў уладу князь Гайцівіл, а праз нейкі час бачым новага князя жмудзкага—Страйната. Але і гэты ня доўга ўтрымаўся на пасадзе, бо ськівуў яго хітры і добры дыплёмат, сын Міндаўга, Вайшэлак. Яшчэ за панаваньня Міндаўга Вайшэлак ужо кіраваў Наваградзкім князьствам, Чорнай Русьсю, як намесьнік. Ён быў такім спрытным і энэргічным, як бацька і імкнуўся да адзінаўладзтва.

Зараз-жа па сьмерці бацькі Вайшэлак уцёк у Пінск і тут, апрануўшыся у манашаскую вопратку, бясьпечна жыў. Але калі паслужыў адпаведны мамэнт па сьмерці Гайцівіла, Вайшэлак ськівуў расу, згрупаваў каля сябе беларускія хрысьціянскія масы, забраў Наваградак і абвесьціў сябе Вялікім князем. І цяпер пачаліся крывавыя разрахункі, як з ворагамі бацькі, так і з сваімі. І такім чынам адна-ўладзтва ўзноў было дасягнута. Здавалася-б, што Вайшэлак, атрымаўшы ўладу, будзе яе моцна трымаць, але сталася йнакш. Праз нейкі час Вайшэлак кінуў усе дзяржаўныя справы, йзноў апрануў манашаскую расу і скончыў сваё жыцьцё ў манастыры.

У Літве і Русі ў гэты час узноў пачаліся спрэчкі паміж князямі за вярхоўную ўладу ў дзяржаве. І гэтыя непарадкі цягнуліся да канца XIII ст., пакуль ізноў ня ўзяў уладу ў свае рукі ў 1293 г. Вітэн. Вітэн з братамі сваімі і наступнікам Гедымінам патрапілі утрымаць вярхоўную ўладу і збудаваць сільную і вялікую Беларуска-Літоўскую дзяржаву, якая і трымалася доўгі час на моцных падставах.

**М. Пяцюкевіч.**

# Як пісаць у газэты.

Дзеля таго што лік нашых супрацоўнікаў стала павялічаецца, уважаем за канешнае прыпомніць тут правілы пісаньня ў газэту.

Усякая рэч празначаная да друку павінна быць пісана
1. выразна, р э д к а;
2. на адным баку аркуша;
3. з бакоў запісанага аркуша трэба пакідаць чыстым невялікае поле.

Інакш запісаны аркуш вельмі цяжка даецца ў друкарні адчытаць, забірае шмат дарагога часу і дзеля таго часта астаецца нявыкарыстаным.

**Рэд. „Шл. Моладзі."**

# Літэратурны аддзел.

## БЕЛАРУСЬ.

У вобліку прастораў поля,
Лугоў, нізін, лясоў драмучых,
Тых вёсак з долею-нядоляй,
У майскі час садоў цьвітучых
Я бачыў Беларусі вобраз,
Як дар звычайны кругазору.
Пачуў я так-жа яе голас
У межах роднага прастору,
У тонах музыкі вясёлай
Тых птушак, вечна-трапятлівых,
У сьпевах чутых вавакола
У вёсцы, ў лесе і на нівах,
Як даўны твар душы народнай,
Які адбіў у тонах, словах
Абраз краіны нашай роднай
У нядолі вечнае аковах.
І вось, уражаньні такія
Узялі ўладу нада мною
І хоць іх сум заўсёды крые —
Я іх кахаю ўсей душою,
Бо ўсё гэта разам твораць
Беларусь — родную Краіну,
Якая скора загаворыць
Аб лепшай долі свайму сыну.

Юл. Сяргіевіч.

* * *

Мароз... Асьнежаныя хаты.
Ружовіць першы сьнег зара.
Адкульсьці з сівера ў сваты
Прышла за ноч да нас зіма.

Зіма, зіма... Ах колькі белі,
І сьвежа ўспыхнуўшы настрой.
Ізноў я рад, вясёл і сьмелы
І вочы цешу бялізной.

Я еду... Конь, як я, таксама
Ад сьнежнай белі не цьвяроз:
Яму ня страх — ні роў, ні яма,
Наўкола брук паклаў мароз.

Здароў павоз сьняжных разгонаў,
Здароў марозны першы дзень!
І заліваньне звонкіх бомаў
Там у звонкай далі — гэнь!

**М. Машара.**

## ВОЛ—ВУЧЫЦЕЛЬ.

Жыхарам вёсак і сёл
Адзін знаны быў вол:
Тлусты, рагаты
І, кажуць, вельмі багаты
Аж дзіў:
Усіх вол суседзяў вучыў:
Што трэба слухаць паноў,
Схіляць прад імі галоў
І не зачынаць з ім звадкі,
Плаціць дабраволна падаткі —
„Ня будзеш, кажа, ў абідзе,
Бо пан ніколі ня скрыўдзе,
Будзеш мець поўна карыта —
Пан поіць і корміць дасыта,
Прытым далікатна гавора.“
Дык вось як вол навучаў.
Чаго-ж ён сам дачакаў?
Яго зарэзалі скора.
А пан, прыгожа адзеты,
Сеў ля стала
Зьеў смачны катлеты
З таго-ж вала.

. . . . . . . . . . . . . .

Я. Б.

## ЗІМА.

Прайшла восень,—сьняжок выпаў
Зіма наступіла...
І настольнікам бяленькім
Зямельку пакрыла.

Дні кароткі, даўгі ночы,
Поле адпыхае;
Сьпяць расьціны, а жывёлу
Студзень прабірае...

Па вадзе мароз будуе
Масты лядзяныя:
Па іх езьдзяць там на лыжвах
Людзі маладыя.

Дрэвы голыя з кустамі
Сумны выгляд маюць;
Замарожаныя вокны
З хатак пазіраюць.

Апранулісь людзі цёпла
Ў кажухі—бурносы;
Езьдзяць ціха, лёгка ў санках,
Схаваўшы калёсы.

Сонца ўзімку дык ня грэе,
Скрыпіць мароз... Люты!
Вецер жорсткі дзьме—шалее
І завею круціць:

Пад крыло хавае—туліць
Галаву птушына,
Зьвер хаваецца ў бярлогі,
У хлявох —скаціна.

Ў полі пуста, толькі ў лесе
Дрэва сякуць, возяць,
У хатах бабы прадуць лён,
У гумнах малоцяць.

Сакавік к канцу падходзіць,
Заплакаўшы вочы,
Зіму нудную выводзіць
У дзень роўны ночы.

А. Жук.

## Калядныя пошумы

Здалёк, з сталёва-марознага паветра, далятаці сьлёзныя енкі мужыцкіх саней. Абвівалі яны хаты і гумны засьнежанай вёскі паяском працяжнага стогну і жалю і рассьцілаліся ў прасторы сьняжвёвае ночы.

Акрыты шэраньню дуб векавы застыў у задуме ля хаты. Пахілы гадамі дзядуля сьніў летнюю казку мінулай пары. Грамадзілісь вобразы цяжкай сучаснасьці — абнятыя працьмай надхадзячых лет. Размроеным думкам вобразы сонечнае раніцы, з бурнымі паўднямі мінулае славы, зьяўляліся чароўнаю басьняй...

Там ліпы, пахучыя цьветам мядовым, шумелі сямейкай пчалінай. Ад зор да зор ішло рупнае зьбіраньне залатога напітку з вясковых вясёлкавых ніў. Прадзедавай спадчынай ліпы старыя гаілі зьнямогу хворага сэрца і раны слабеючых душ.

Бальзамам гаючым прадзедавай працы здабыткі на кожну патрэбу хаваліся ў чарках крышталёвых...

Пазрэзаны сяньня ліхою рукою прыблуды з чужое зямлі сяброўкі — паднебныя, старыя ліпы...

Затое так сяньня над вёскай засьнежанай крыўды векавой напевы вісяць...

Затое і дзеці бяздольнае вёскі так блудзяць няшчасна з атручаным сэрцам—ад зельля чужацкае нівы...

Забытаю дрэме магіла прадзеда. Пазрэзаны ліпы, прадзед што садзіў, як сілы няўхільнай крыніцы — для ўнукаў — патомкаў сваіх.

Шумна галіны шумяць пад ветрам сьняжнёвае ночы...

Там, побач ля тыну старога, пад сьнегу пушыстай пасьцеляй, ад зрэзаных ліп каравёў страляе ўвысь маладняк. Хоць ноч ім праклёны сьпявае і сыпе магілу мяцеліца — ён сокі магутнае сілы пад зімкі марозам таіць...

І зімкі цяжкая часіна і ночы час міне цёмны.

Марозам сталец'цяў у лёд сьцятая крыўда рухне вясьнянай паводкай і сарве цяжкія аковы.

А сяньня хоць думкі гнятучыя хаўтурныя гымны пяюць, не здапеюць сіл маладых у бяздзейнасьці стан укалыхаць.

З карэньняў пазрэзаных ліп шыбае ўвысь маладняк.

Калядняю ночай акрыты шэраньню дуб векавы застыў у задуме ля хаты...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Здалёк далятае і пляском ўецца сьпеў мужыцкіх саней, што сьлед пракладаюць у процьму мяцеліцы.

В. Б.

## Пражытае... будучае...

Марознае паветра рэжа твар. Сонца, сваімі сталёва-сінімі косамі барактаецца ў пуху марознага сьнегу, нібы хочучы перакапацца ў яго запраўднай белі і пухкасьці. Іскрыцца сьнег. Пераліваюцца сонцавыя коскі на прамерзшых галінках векавых бярозак, якія, як старажылы адвечнай думкі, горда стаяць абапал таго-ж векавога гасьцінцу. Яны ехалі. Ехалі шчасьлівыя, поўныя ружовых надзей сьветлай вясьнянай раніцы пасьля буры! Ехалі і маўчалі. Толькі часам рукі іх сьціскаліся ў парыве пачуцьця вернай любові. Яны былі... Не — яны шчасьлівыя! Вечарам яны доўга спацыравалі па модных вуліцах м. Д... і, моўчкі разумелі парывы першага каханьня. Так праходзілі гадзіны... Вось прышлі яны на шырокі гасьцінец. Ізноў векавыя бярозкі. Па-за імі астаўся горад увесь заліты сьветам, з неўгамоннаю таўпою вуліц. Яны вольна, вольна ідуць... іх рукі сьціснуліся... і вусны ціха шэпчуць... шэпчуць адвечныя

словы, такія старыя, як бярозы... як сьвет... і ціха, вібы... зьліваюцца ў першы неапаганены пацалунак! Яны шчасьлівыя!

Вецер сьціх. Толькі часамі, вібы зьнячэўку, чуць дуне і пасыпае сухім, сухім сьнегам і — зьнікае. Месяц яшчэ не зайшоў. Яны йзноў едуць—едуць, поўныя веры і надзеі ў лепшую будучыню! Ціха. Ані слова... Толькі сэрцы гамоняць ім зразумелую гутарку і наводзяць на пражытае... Курганы, мароз, кудаса... Гэта сьведкі іх шчасьця. Ды цёмная зімняя, з мільёнамі зорак, ночка багаслаўляла іх саюз!

Мілая! Ці пакахаеш той Край гаротны? Як — мяне... Бо, я вечна Твой! Глянь на шэрыя хаткі нашых пакрыўджаных! Глянь на іх панадворкі поўныя... бяды і непрагляднага гора. Вось коміны драбіаястыя, пахілыя! Кароўкі тошчыя, худыя... плятуцца ад студні халодны хлеў да саломы. Вось наш гаспадар. Беларус ён. У палатанай сярмязе, на галаве старынны салдацкі картуз: ўпалыя шчокі... анічуць крыві... худы, бледы!—Ці-ж пакахаеш яго? Гэтага абязумленага Беларуса?— Яна ціха сьхіляе галаву, а рука яшчэ мацней сьціскаецца...

Вось станцыя. Жалезны шлях. Дзьве доўгія, як вужакі рэльсы гінуць ў цемнаце... ўрэзваюцца ў векавы сасновы бор, які далёка, далёка сплываецца ў непрабітую цёмную сьцяну. Туды ляжыць гэты шлях, адкуль яна!—Ты хочаш да дому?—Яна яшчэ ніжэй апускае галаву, а рука падносіць яго руку к свайму сэрцу... Шэпча— мілы! Яна пакахала гэтага абязуменнага Беларуса!

Чалавека бяз імяньня...

Чалавека загнанага... бяз роднае хаты...

Вось з-за паварату, з цемры зімняе ночы выпаўз цягнік. Два сьветлыя пункты... Гэта фанары на перадзе паравозу.

Ціха і вялічава падкаціў, ўвесь ў пары і сьнежным пыле, пасажырскі цягнік... Яны душэўна разьвіталіся. Але... не навекі! Яны спаткаюцца калісьці і... злучацца, як адна істота. Ён адчыніў дзьверы вагону... ў купэ. Машынальна бярэ яе за руку і прагавіта цалуе. Гэта ўсё. Цераз шчыліну дзьвярэй ён бачыць яе сьлёзы. Яны раняць яго сэрца. Цягнік мерна ўскалыхнуўся і паплыў у цёмны бор... За хвілю скрыў яго і яе ў ім...

Я спаткаў яго калісьці і спытаў: „Ці датрымае яна прысягу? Ці пакахае Беларусь“?

— Я веру... Настане час, калі... О, Русь! Белая, Белая, а сяньня загнаная, шэрая... Прысяга... Яна пакахала ўжо... Чакаю першае весткі...

Мік. Нядоля.

# Лісты

## НЯСЬВЕДАМАСЬЦЬ.

**Порплішчына**, Дзісенскага пав. У нашай старане сяляне — беларусы, пераважна праваслаўнага веравызнаньня, адно сям-там дзе каталікі. Вось-жа з сумам прыходзіцца сьцьвердзіць, што каталіцтва, на чале якога ў нас стаяць ксяндзы — палякі, вельмі кепска адбіваецца на нацыянальнай сьведамасьці нашых братоў беларусаў-каталікоў. Ксяндзы да таго патрапілі ўбіць ім у галовы польскасьць, што яны выракаюцца свае беларускае народнасьці.

Гэтак не павінна быць. Жыхары Беларусі, ці то каталікі, ці праваслаўныя — яны аднэй народнасьці — беларускай. Час ужо гэта зразумець і каталікі павінны таксама, як і праваслаўныя ўсюды заяўляць, што яны беларусы.

Выракаючыся-ж свае народнасьці мы выракаемся права быту і капаем пад сабою і пад сваей бацькаўшчынай глыбокую і страшную яму

Малады Каваль.

## ДОБРЫ АБ'ЯЎ.

**М. Славікі**, Ваўкавыскага пав. Апошнім часам па нашых вёсках моладзь пачала цікавіцца беларускай літэратурай. Раней у нас калі хто чытаў якую кніжыцу, ці газэціну, то толькі польскую, убітую яму ў рукі польскім ксяндзом. Цяпер ужо аднак даволі часта можна спаткаць нашу моладзь з сваей беларускай кніжкай ці газэтай, якую яна сама, нават часта з вялікім трудам, выпісала. Зьявішча гэта дужа дадатняе і сьведчыць аб тым, што моладзь наша пачынае разумець патрэбу пазнаньня свае культуры і літэратуры, якая мае вельмі і вельмі многа багацьцяў. Моладзь наша пачынае разумець, што пакуль пазнаць чужое, трэба знаць сваё собскае багацьце.

Пажадана было-б, каб наша моладзь пастаралася супольнымі сіламі залажыць калі ўжо ня гурток беларускае культурнае арганізацыі і пры ім бібліятэку-чытальню, то прынамся хоць прыватную супольную бібліятэку і тады супольнымі сіламі выпісаць больш беларускіх кніжак, з якіх магла-б чэрпаць ваду: гэта дапамагло-б зразумець патрэбу нацыянальнага адраджэньня Беларускага Народу.

Уладзімер Адамчук.

# З жыцьця Бел. Студ. Саюзу ў Вільні.

Беларускае студэнства Заходняй Беларусі вучыцца пераважна на Віленскім Унівэрсытэце. Заложаны ў 1921 годзе Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні з кожным годам разрастаецца і сягоньня мае 80 з лішнім сяброў. Лічба гэта ня так вялікая — шмат нясьведамых студэнтаў - беларусаў не належа йшчэ да Саюзу.

Б. С. С. ёсьць арганізацыяй апалітычнай і стаіць на грунце народніцка-незалежніцкім. Мэтай яго ёсьць паглыбляць сярод сваіх сяброў народную сьведамасьць, пазнаньне свайго народу, самапомач і пашырэньне беларускай культуры ў сваім краю.

Такі кірунак працы Б.С.С. ня быў да ўспадобы нашым ворагам. І так ад самага пачатку камуністы пачалі закідываць свае сеці на беларускае студэнства. Нясьведамыя людзі пасьля гэтага часта ўважалі Б.С.С. за арганізацыю сымпатызуючую бальшавіком. Гэтакія чуткі вельмі шкодзілі беларускай справе. Кончылася гэта тым, што Б.С.С., каб утрымаць сваю апалітычнасьць, выкінуў з саюзу некалькіх сяброў.

Пасьля гэтых сумных для Саюзу здарэньняў усё, быццам, прыціхла. Але тут выступілі на арэну дзейнасьці віленскія палянафілы і ім удалося нагаварыць сяброў Ураду Саюзу 1930-31 акад. г. Кончылася гэта тым, што сябры Саюзу далі Ураду на агульным сходзе абсолютарыюм з в ы г а в а р а м. На старшыню Саюзу на 1931-32 акад. год быў выбраны кал. Б. Арэнь. У канцы, сябры былага ўраду і іхныя староньнікі—у ліку 10 асоб разам—відзячы, што ніхто з іх не прайшоў у Урад Саюзу, дэмонстрацыйна пакінулі сход. І пасьля, дабраўшы іншых студэнтаў, прыняліся тварыць корпорацыю K! Scorinija, якая адразу стала на палянафільскі грунт.

Б.С.С. не забараняў належаць сваім сябрам да K! Scorinii. Аднак, калі сёлета ўлетку паказаўся бюлетэнь Аб'еднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў (А.Б.С.А.) (выданы ў Празе), урад K! Scorinii выступіў супроць гэтае чаопісі. Б.С.С. у Вільні, як сябра А.Б.С.А., чуўся праз гэта абражаны сваімі сябрамі, належучымі да K! Scorinii і на надзвычайным сходзе дн. 13.XII-31 г., на прапазыку рэвізыйнай камісіі Б.С.С. забараніў належаць сваім сябром да K! Scorinii. Гэта выклікала гарачыя спрэчкі. Адзін з корпорантаў зьняважыў чынна старшыню Рэвізыйнай кам. кал. Я. Шутовіча Пасьля гэтага нясябры Саюзу, за выняткам аднаго, пакінулі сход. Адначасна, праз аклямацыю, сход прыняў байкот сяброў Scorinii — не гаварыць і ня вітацца з імі.—Гэтак у Вільні сяньня ёсьць дзьве студэнскія арганізацыі варожа да сябе ўспасобленыя.

У апошнія часы Беларускі Нацыянальны Камітэт, бачучы вялікую бяду і недастатак паміж беларускім студэнствам, выдзяліў з сябе Камісію Стыпэндыяльнага Фонду, якая зьбірае ахвяры для бедных і працавітых студэнтаў-беларусаў. Факт гэты вызваў вялікае задаваленьне паміж сябрамі Б.С.С., дзе ёсьць шмат патрабуючых. Інакш гэта прынялі сябры К! Scorinii, сярод якіх ёсьць і такія, што могуць пазволіць сабе і на бочку піва.

Я Малецкі
студ. мэд. У. С. Б.

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

Камісія Стыпэндыяльнага Фонду для беларускіх студэнтаў пры Беларускім Нацыянальным Камітэце ўжо канчальна сарганізавалася і прыступіла да працы. Старшынёй Камісіі зьяўляецца інж. Ад. Клімовіч, скарбнікам—пасол Ф. Ярэміч і сэкрэтаром—б. сэн. В. Багдановіч.

Пажадана, каб беларускае грамадзянства як найшырэй прыйшло з помаччу свайму беднаму студэнству, прысылаючы ахвяры на Стыпэндыяльны Фонд. Адрэс Камісіі Ст. Фонду: Wilno, ul. Ludwisarska 1—19.

Беларускія канцэрты. 4.XII.1931 году Бацькаўскі Камітэт і Пэдагогічная Рада Навагрудзкае Беларускае Гімназіі ладзілі канцэрт беларускіх песьняў на карысьць незаможных вучняў. Канцэрт адбыўся ўдача.

— 5.XII.1931 году ў Віленскай Беларускай Гімназіі Бацькаўскі Камітэт гэтае гімназіі таксама ладзіў канцэрт, у часе якога выступаў хор пад кіраўніцтвам гр Г. Шырмы і салісты. Як хор так і салісты вельмі ўдала выканалі цэлы рад беларускіх песьняў. Публікі было вельмі многа.

Лекцыі. Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры ладзіў лекцыі: 6.XII.31 г. у Шутавічах, 8.XII.31 г. у Мураванай Ашмянцы — у Ашмянскім павеце, 26 XII.31 г. у Вялікай Вёсцы і 27.XII.31 г. у в. Лакцянах у Сьвянцянскім павеце. Лекцыі чытаў інж. Ад. Клімовіч.

— Гурток БІГіК ў Шутавічах, Ашмянскага пав. дн. 31 XII.31 г. ладзіў лекцыю на тэму „Работніцкае пытаньне ў сьвятле энцыклікаў: „Rerum novarum“ і „Quadragesimo anno“. Лекцыю прачытаў студ. У.С.Б. Я. Шутовіч.

Зьезд Беларускай Хрысьціянскай Дэмакрацыі. 13.XII 1931 г. ў Вільні адбыўся Зьезд Беларускай

Хрысьціянскай Дэмократыі. На Зьезьдзе было прысутных 101 дэлегат з усіх куткоў Беларусі і 24-ох гасьцей. Зьезд адбыўся ў „Крэсовай" залі на Завальнай вул. № 1. Адчыніў яго ад імя Прэзыдыюму БХД рэдактар „Бел. Крыніцы" і сябра прэзыдыюму БХД грам. Ян Пазьняк. Пасьля выбару Прэзыдыюму Зьезду і прывітаньняў, інж. Ад. Клімовіч прачытаў рэфэрат на тэму „І культура і палітыка". Пасьля рэфэрату грам. Я. Пазьняк даў справаздачу з дзейнасьці БХД і выбрана была спэцыяльная Камісія дзеля апрацоўкі рэзалюцыі і папраўак Праграмы і Статуту БХД. Далей прыбыўшыя дэлегаты рабілі даклады з мясцоў аб жыцьці беларускага Народу пад Польшчай. Пасьля справаздачаў, адбыліся перавыбары цэнтральных уладаў БХД. У склад новага Прэзыдыюму БХД ўвайшлі: інж. Ад. Клімовіч як старшыня, гр. гр. Я. Красоўскі і М. Дварэцкі як віцэ-старшыні, гр. Я. Пазьняк — сэкрэтар, Я. Шутовіч — скарбнік, гр.гр.: др. Ст. Грынкевіч, Я. Чарнэцкі, Яз. Ярмалковіч, В. Таўкінь, А. Сенкевіч і Б. Бабарыка як сябры Цэнтр. Камітэту Б.Х.Д.

У склад жа Рэвізыйнае Камісіі БХД выбраны гр. гр.: Я. Найдзюк, Ал. Яцыка, В. Васілеўскі і Я. Малецкі.

Па выбарах прыняты былі Зьездам папраўкі прагмамы і статуту БХД, апрацаваныя Камісіяй і рэзалюцыі.

Канфіската „Беларускае Крыніцы. 23.XII. 1931 г. віленскія адміністрацыйныя польскія ўлады сканфіскавалі № 42 „Беларускае Крыніцы", выданы ў паболь-шаным фармаце (6 бачын), за зьмяшчэньне стацьцей: аб Зьезьдзе БХД, гдзе паміж іншым былі падады справаздачы дэлегатаў на Зьъздзе БХД, Перамога (з студэнскага жыцьця) і адну карэспандэнцыю.

**Асабістае.** 7.I.1932 году у касьцеле сьв. Рафала адбыўся шлюб выдаўца „Шляху Моладзі" Яна Багдановіча з Янінай Цесюль. Маладой пары жадаем доўгага і шчасьлівага жыцьця.

## З беларускае выдавецкае нівы.

Апошнім часам вышлі з друку наступныя новыя беларускія кніжкі, календары на 1932 г. і часопісі:

„Z Rodnaha Zahonu" — Адр. Зязюлі — зборнік вершаў. Выданьне кс. Я. Семашкевіча, 176 стр. Вільня 1931 г. Цана 1 зл. 50 гр.

„Новы запавет і псальмы". Выданьне Брытанскага Замежнага Біблійнага Т-ва (мэтадысты). Стр. 446. Гэльсінгфорс 1931 г. Цана 1.20 зл.

„Рэлігійнае жыцьцё на Беларусі". Зборнік стацьцей аб рэлігійным жыцьці на Беларусі. Выданьне Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Саюзу. 64 стр. Вільня 1932 год. Цана 30 гр.

Беларускі календар на 1932 год, кніжка (гражданкай) — выданьне Беларускага Рэлігійна - Грамадзкага Саюзу, 96 стр. Зьмяшчае царкоўны і касьцельны календар, гаспадарчыя парады, стацьці аб беларускім грамадзкім і рэлігійным жыцьці. Цана 50 гр.

Беларускі Адрыўны Календар на 1932 год. Цана 1 злот.

„Нёман" № 1 — літэратурна-навукова-мастацкая часопісь. Год выд. I. Рэдактар Я. Сяргіевіч, выдавец Адв. Будзька. Цана нумару 1 злот.

„Novaja Varta" № 1 — часопісь нядаўна паўстаўшае корпорацыі „Scorinia", якая мае на мэце польска-беларускае супрацоўніцтва. Год I. Цана нумару 1 зл.

„Голас Праваслаўнага Беларуса" № 1 — орган новапаўстаўшага „Беларускага Праваслаўнага Камітэту", на чале якога стаіць б. „грамадавец", а цяпер правадыр полёнофіліі Р. Астроўскі. Год выд. I. Цан. нум. 50 гр.

„Слова Праўды" — аднадзёўка. Рэдактар і выдавец Ул. Знамяроўскі.

Усе гэтыя кніжкі, календары і часопісі можна купіць, або выпісаць з беларускай кнігарні „Пагоня", Вільня, Завальная вул. № 6—10.

Ходзяць чуткі, што ў пачатку 1932 году пачынае выходзіць новая беларуская рэлігійная часопісь „Да злучэньня".

### З украінскага жыцьця.

Пацыфікацыя. Як падаюць газэты, справу пацыфікацыі ў Галіччыне канчальна мае абгаворваць Ліга Народаў у студні месяцы 1932 году.

„Новий Час". З пачаткам 1932 году ў Львове пачынае выходзіць трэцяя штодзенная ўкраінская газэта п. н. „Новий Час".

### З літоўскага жыцьця.

Закрылі. 31 сьнежня 1931 г. польскія школьныя ўлады закрылі 10 літоўскіх прыватных пачаткавых школ на Віленшчыне, утрымліваных літоўскім культурна-прасьветным Таварыствам „Рытас". Акты гэтых прыватных літоўскіх школ загадана перадаць польскім школьным інспэктаром, а дзяцям загадана весьці ў польскія школы. — Такім чынам 360 літоўскіх дзяцей пазбаўлена сваей роднай школы, а 12 літоўскіх вучыцялёў сталіся безработнымі.

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*

*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*

**Выдавец Янка Багдановіч. Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч**

## З Польшчы.

— Ведамы Берасьцейскі працэс, які адбываецца ў Варшаўскім Акружным Судзе блізу два месяцы часу, дабягае да канца.

— Гаспадарчы крызыс пашыраецца, безрабоцьце расьце — лічба безработных сягае больш 270 тысяч. У Варшаве ў 1931 годзе збанкрутавала 510 гандлёва-прамысловых фірмаў.

— У Польшчы хочуць завясьці цывільныя шлюбы. Праект іх у хуткім часе мае быць падаты ў Сойм дзеля разгляду і зацьверджаньня. Супроць гэтага праекту, які нарушае касьцельныя каноны, востра выступае каталіцкае духавенства.

## З заграніцы.

Індыя. Канфэрэнцыя „Круглага Стала“ ў Лёндыне, аб якой мы пісалі ў папярэдніх нумарох „Ш. М.“, у справе Індыі да нічога не давяла. Гандзі выехаў з Лёндыну праз Рым у Індыю і павёў там ізноў барацьбу за незалежнасьць Індыі. Бачачы гэта англійцы арыштавалі Гандзія і пасадзілі ў вастрох. Тое самае зрабілі з ягоным заступнікам. Арышт Гандзія зрабіў вялізарнае ўражаньне як у Індыі, так і на цэлым сьвеце. Усе спадзяюцца, што цяпер Індусы ізноў пачнуць байкот англійскіх тавараў і павядуць яшчэ вастрэйшую барацьбу за незалежнасьць свае бацькаўшчыны.

На Далёкім Усходзе японска-манджурскі канфлікт, а сапраўды—вайна расшыраецца. Інтэрвэнцыя Лігі Народаў не памагла нічога. Даходзяць чуткі, што можа выбухнуць японска-амэрыканская вайна, бо Амэрыка мяшаецца ў японска-манджурскі канфлікт.

У Нямеччыне неспакойна. Гітлераўцы і камуністы што раз вастрэй выступаюць проціў сучаснага ўраду і вядуць змаганьне паміж сабою, прыгатаўляючыся да абняцьця ўлады.

У Мэксыку ізноў выбухнуў канфлікт паміж касьцёлам і ўрадам.

У С. С. Р. Р. кончыліся нарады Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту С.С.Р.Р., якія адбываліся пад старшынством Калініна. Учасе гэтых нарадаў Молатаў зрабіў даклад аб заграпічнай палітыцы і заявіў, што ССРР. зробіць усё, каб толькі ўтрымаць супакой. ССРР. мае на мэце заключыць дагавор аб ненападаньні з Францыяй і Польшчай, а так-жа з Румыніяй і Англіяй. — Бюджэт ССРР на 1932 год выносіць 21 мільярд рублёў.

— У Францыі, адзінай багатай дзяржаве, безрабоцьце таксама пашыраецца. З гэтае прычыны французы высяляюць з Францыі эмігрантаў, якія прыехалі туды на работу.

## Усячына.

**Раскопка.** У Палестыне цяпер адбываюцца раскопкі ьяісуючага ўжо цэлыя тысячы гадоў палестынскага места Міебэг. Амэрыканскія архэолёгі адкапалі ўжо муры гэтага места, рэшткі публічных і прыватных будоўляў а так-жа і сьвятынь з ізраэлітанскіх і паганскіх часоў. Знойдзеныя прадметы паказваюць, што места Мізбег заложана некалькі тысяч лет перад Нараджэньнем Хрыста.

**Сьвятло і праца.** Др. Руффэр з Бэрліна даказвае, што вельмі вялікае значэньне мае колер сьвятла пры працы. Ён гавора, што найадпавяднейшым асьветленьнем пры працы ўмысловай ёсьць асьвятленьне колеру жоўтага або жоўта-зялёнага. Далей-жа йдуць колеры: зялёны, чырвоны, белы і сіні.

## Наша пошта.

Круцёлцы Мяцёлцы. — Вершы Вашы слабыя, пішэце лепш прозай. Вельмі былі-б мы Вам удзячны, калі-б Вы напісалі штось з жыцьця Вашае моладзі.

М. Машары. Матэр'ялы атрымалі, дзякуем. Просьбу спаўняем. Просім не забываць.

С. Гаротнаму. За прысланае шчыра дзякуем, скарыстаем. Напішэце штось з жыцьця Вашае моладзі.

Яну Ц—нэлю. З увагі шчыра дзякуем. Просім пісаць часьцей.

Маладому кавалю. За прысланае шчыра дзякуем і просім не забываць.

Ул. Адамчуку. За прысланае шчыра дзякуем. Прабуйце пісаць пабеларуску. Ці атрымалі Вы ліст і кніжкі?